ТЭЛЕПРАГРАМА НА ТЫДЗЕНЬ

№12 (1825)
Субота, 24 студзеня 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень
Выдавец:
УП «Народная воля».

Кошт свабодны.

# Народная Воля

E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

## У суботу і нядзелю — марознае надвор'е

У суботу і нядзелю на ўсёй тэрыторыі Беларусі захаваецца марознае надвор'е.

У суботу сярэдняя дзённая тэмпература складзе 9—14 градусаў марозу. Ноччу слупок тэрмометра апусціцца да мінус 15—20, а месцамі — да мінус 25 градусаў.

На паўднёвым усходзе ў суботу чакаецца ўзмацненне паўночнага ветру да 14—15 метраў у секунду, невялікі снег і слабая завіруха. Тэмпература ў гэтай частцы краіны чакаецца мінус 5—10 днём і 11—16 градусаў марозу ноччу.

У нядзелю маразы аслабеюць на 2—5 градусаў, месцамі пройдзе снег.

Паводле прагнозаў Белгідрамета, умерана марознае надвор'е захаваецца ў Беларусі да канца студзеня.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

ПУЛЬС

## Калі Брэстчына будзе мець мільён тон збожжа?

У найбліжэйшыя дні ў Брэсце будзе працаваць група навукоўцаў, якая прааналізуе сітуацыю ў сельскай гаспадарцы Брэсцкай вобласці. Пра гэта паведаміў старшыня аблвыканкама Васіль Далгалёў на прэс-канферэнцыі. Паводле яго слоў, навукоўцы павінны разабрацца, чаму вобласці не ўдаецца дасягнуць пастаўленых задач, у тым ліку па зборы збожжа.

Заданне сабраць 1 мільён тон збожжа ставіцца перад Брэсцкай вобласцю ўжо не першы год, аднак дагэтуль не выканана. Гэткая ж задача пастаўлена і сёлета.

У 2003 годзе валавы збор збожжа ва ўсіх катэгорыях гаспадарак склаў 837,8 тысячы тон, або 95 працэнтаў да ўзроўню мінулага года.

Як мяркуе старшыня аблвыканкама, прычыны няўдач — безадказнае стаўленне да выканання тэхналогіі вырошчвання збожжавых культур з боку кіраўнікоў і спецыялістаў гаспадарак, а таксама бескантрольнасць з боку мясцовых органаў улады.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## Беларусь скарачае колькасць нетарыфных абмежаванняў у гандлі з Расіяй

Урадам Беларусі прадпрынятыя меры па скарачэнні колькасці нетарыфных абмежаванняў па знешнім гандлі з Расіяй.

Не будзе прадоўжаны тэрмін дзеяння пастановы ўрада ад 27 лютага 2003 года "Аб упарадкаванні абароту мукі, крупаў і хлебабулачных вырабаў на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь" з мэтай адмены абмежаванняў на ўвоз гэтай прадукцыі на тэрыторыю Беларусі.

Апрача таго, 15 студзеня гэтага года ўрад прыняў пастанову, якая адмяняе абмежаванні на ўвоз у краіну півавархага ячменю.

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

## Курсы замежных валют

На 24 студзеня Нацыянальны банк Беларусі ўстанавіў наступныя афіцыйныя курсы замежных валют:

1 долар ЗША — 2153,00 рублёў
1 еўра — 2745,18
1 аўстралійскі долар — 1676,00
1 балгарскі леў — 1403,34
1 дацкая крона — 368,47
1 СДР — 3223,06
1 ісландская крона — 31,61
10 японскіх іен — 203,16
1 казахскі тэнге — 15,42
1 канадскі долар — 1659,98
1 кувейцкі дынар — 7304,25
1 кыргызскі сом — 49,23
1 латвійскі лат — 4070,71
1 літоўскі літ — 794,89
1 малдаўскі лей — 165,62
1 нарвежская крона — 318,62
1 польскі злоты — 584,50
1 расійскі рубель — 75,41
1 сінгапурскі долар — 1272,42
10.000 турэцкіх лір — 16,22
1 украінская грыўна — 403,33
1 англійскі фунт стэрлінгаў — 3970,13
1 чэшская крона — 83,29
1 шведская крона — 300,73
1 швейцарскі франк — 1750,12
1 эстонская крона — 175,48

**БелаПАН.**

*10 гадоў няма сярод нас Алеся Адамовіча. Беларусь заўчасна згубіла не толькі вялікага пісьменніка, грамадскага дзеяча, але ў першую чаргу — Вялікага Грамадзяніна.*

# Абыякавасці не цярпеў

**Радзім ГАРЭЦКІ**



*Алесь Адамовіч разам з пляменніцай Галяй (злева) і дачкой Наташай.* **Фота Яўгена КОКТЫША.**

Упершыню Алеся Міхайлавіча Адамовіча я ўбачыў у пачатку 1970-х гадоў у Мінску на кватэры маіх бацькоў, калі яны жылі па вул.Акадэмічнай (цяпер вул.Ф.Скарыны). Сярэдняга росту, у простым (без усялякіх гальштукаў), відаць, зручным для яго адзенні, з добрай капой цёмных валасоў над круглявым тварам, ён сардэчна павітаўся з маімі бацькамі, якіх ужо ведаў раней, і таксама вельмі шчыра пацiснуў мне руку. Скрозь акуляры ўважліва глядзелі разумныя карыя вочы, якія мне здаліся поўнымі дабрыні, нейкай лагоды і спакою. І таму, мусіць, ён мне спачатку нагадаў П'ера Бязухава. Але калі Алесь Міхайлавіч загаварыў характэрнай хуткай гаворкай, якая ледзь паспявала за яго яшчэ значна больш хуткай думкай, я адчуў, што гэта зусім іншы чалавек — гарачы, імпульсіўны, шыбкі, востры, шчыры, які вельмі лагічна разважае, надзіва вобразна думае.

Алесь Міхайлавіч тады зацікавіўся жыццём і творчасцю Максіма Гарэцкага, які ў сувязі з поўнай рэабілітацыяй пачаў патроху вяртацца сваімі творамі да свайго народа...

У верасні 1974 г. Алесь Адамовіч напісаў майму бацьку ліст з просьбай адказаць на даволі шырокі спектр пытанняў пра Максіма Гарэцкага. "Дарагі Гаўрыла Іванавіч! Прабачце, што пішу многа пытанняў. Але і гэтага мала, хацелася б, каб Вы вакол іх напісалі як мага больш пра ўсё, што памятаеце. Спатрэбіцца гэта не аднаму мне. Пра асобу, пра творы (як задумваліся, як пісаліся), пра яго жыццё, пра погляды, пра думкі, пра жыццё сям'і і г.д". Далей было шэсць грунтоўных пытанняў. Бацька адказаў падрабязна лістом памерам амаль на 10 машынапісных старонак пад назвай "Вытокі творчасці Максіма Гарэцкага". Амаль поўнасцю гэты ліст у выглядзе вялікіх вытрымак быў выкарыстаны Алесем Міхайлавічам у яго вядомай манаграфіі "Браму скарбаў сваіх адчыняю" (1980).

Вялікае ўражанне на Алеся Адамовіча зрабілі пісьмы сына Максіма Гарэцкага — Леаніда з фронту, з якімі яго пазнаёмілі дзядзіна Лёля і Галя ў Ленінградзе. Ён іх яскрава пракаменціраваў і надрукаваў як у згаданай манаграфіі, так і раней у часопісах "Маладосць (1974.№9) і "Юность" (1975.№4). Ён пісаў: "Чалавечы і пісьменніцкі воблік, шлях Максіма Гарэцкага мелі нечаканы працяг — ужо пасля яго смерці. Кароткі, але асляпляльны працяг у жыцці — подзвігу яго сына... — гэта пацвярджэнне і вышэйшая ацэнка жыцця Гарэцкага-бацькі. Гэта такое паўтарэнне бацькі, яго душы, розуму, таленту, сумленнасці і чалавечнасці!.." ("Брама скарбаў". С4). Бацька і сын — Максім і Леанід Гарэцкія — зноў сустрэліся ў кнізе "На імперыялістычнай вайне" (1987), якая выйшла з цудоўнай прадмовай Міхася Мушынскага.

Дарэчы, думка аб стварэнні "Блокадной книги" пачалася ў Алеся Адамовіча з некалькіх ленінградскіх гісторый, якія ён пачуў ад Галіны Максімаўны і якія былі такія ж жудасныя, як і з "Вогненнай вёскі", як і хатынскія. Галіна Гарэцкая пазнаёміла яго з Марыяй Гур'янаўнай Сцепанчук — першай блакадніцай (былой суседкі Гарэцкіх), ад якой А.Адамовіч 5 красавіка 1975 г. зрабіў свой першы запіс. Аб гэтым ён успамінае ў інтэрв'ю газеце "Литературная Россия" ад 12 сакавіка 1982 г.

У канцы 70-х — пачатку 80-х гадоў Алесь Адамовіч многа разоў прыходзіў пагаварыць з Гаўрылам Іванавічам і на яго новую кватэру па вул.Кульман. Я жыў у тым жа пад'ездзе і таму часта прысутнічаў пры гэтых сустрэчах. Слухаць іх было заўсёды вельмі цікава. Гаўрыла Іванавіч успамінаў пра брата, пра іншых пісьменнікаў і дзеячаў таго часу. Гаварылі і пра сучасную літаратуру, яе стан і развіццё, агульныя падзеі. Алеся Міхайлавіча тады вельмі турбавала праблема ядзернай вайны, пра якую ён горача і пераканаўча апавядаў. Дзівілі лагічнасць яго думкі, неардынарнасць і смеласць яго выказванняў, якія нярэдка разыходзіліся з агульнапрынятымі паняццямі.

Іншы раз Адамовіч прыносіў у падарунак свае новыя кнігі, падпісваў іх маім бацькам, а многія і мне. Расказваў пра тыя цяжкасці, якія амаль заўсёды яму прыходзілася пераадольваць пры іх друкаванні. Праўда яго кніг, часта горкая і жорсткая, многім цэнзарам, кіраўнікам і іншай закасцянелай грамадскасці нашай таталітарнай дзяржавы, узгадаванай на разглядзе жыцця праз ружовыя акуляры сацыялістычнага рэалізму, не падабалася. Вялікі рэзананс выклікала кніга "Карнікі", якую большасць чытачоў сустрэла, як выдатнейшы твор, у якім узняты самыя актуальныя агульначалавечыя філасофскія праблемы. Зноў не абышлося без нападак.

Алесь Адамовіч разгарнуў далей той глыбокі псіхалагізм пераходу звычайнага чалавека ў здрадніка, а затым і ката, які так яскрава паказаў Васіль Быкаў. Алесь Міхайлавіч заглянуў у бяздонныя таямніцы чалавечай істоты. Войны, рэпрэсіўныя таталітарныя сістэмы часта ставілі многіх людзей у такія звышумовы, што яны павінны былі рабіць канчатковы выбар: ці самому загінуць, ці стаць карнікам. Прага да жыцця ў многіх перамагала...

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*

ЭКСПЕРТИЗА

## Газовый вентиль стал наглядным пособием

*в курсе рыночной экономики для официального Минска*

**Александр КЛАСКОВСКИЙ**

По данным московской прессы, глава "Газпрома" Миллер позвонил в Кремль, прежде чем его корпорация оглушила официальный Минск известием о тотальном прекращении поставок голубого топлива в ночь на субботу. Так что за "конфликтом хозяйствующих субъектов", как любит называть такие коллизии Путин, несомненно стоит большая политика.

Почему же Москва решила применить шоковую терапию в отношениях с формальным союзником именно теперь? Ведь многие аналитики полагали, что до президентских выборов (а откровеннее говоря — собственных перевыборов) Путину не с руки обострять ситуацию на белорусском направлении. Мол, все-таки немалая часть российского электората остается в плену старых интеграционных иллюзий и все такое...

**"Вопрос выборов Путин, очевидно, счел для себя уже решенным,** — сказал в интервью для "Белорусских новостей" известный белорусский эксперт, руководитель научно-исследовательского центра Мизеса **Ярослав Романчук. — И в данном случае ему намного дороже, нежели ветхозаветные лозунги "братской интеграции", имидж сильного руководителя страны, который твердо защищает экономические интересы крупнейшей российской корпорации в ближнем зарубежье".** Ведь, по версии Москвы, белорусы мало того что тянут резину с подписанием новых газовых договоров, так еще и стали банально красть продукт из трубы. Впрочем, дело даже не в мелком воровстве, если таковое действительно имеет место. Для Москвы вопрос принципа — научить наконец белорусского партнера азам рыночной экономики. Грубо говоря — вдолбить простую истину, что за все надо платить.

По большому счету, в этом — соль новой российской политики на постсоветском пространстве. Официальный же Минск, по мнению Ярослава Романчука, доныне пытается навязать Москве модель, подобную той, что процветала в советскую эпоху. Тогда СССР щедро кормил вассалов в Африке и на прочих континентах за мифическую верность неким прогрессивным идеалам. Но сегодня Кремль отвергает подобную идеологическую архаику, эту формулу типа "газ в обмен на поцелуи", чреватую тяжким экономическим бременем для страны-донора.

Вместе с тем, как отметил в интервью "Белорусским новостям" другой наш авторитетный эксперт — политолог **Андрей Федоров,** отечественной оппозиции рано в очередной раз делать свой любимый вывод о том, что хозяин Кремля решил-таки, по его же выражению, "мочить". Или, культурнее говоря, начал реализовывать некий сценарий смены власти в Беларуси при помощи таких вот экономических ударов в солнечное сплетение.

**"Да, это серьезное предупреждение Минску. Но более перспективные задачи в отношениях с Беларусью Путин начнет решать после 14 марта, победив на выборах,** — считает Андрей Федоров. **— Другое дело, что по нынешнему шагу уже можно судить: никакого возврата к идиллии в двусторонних отношениях не будет".** Москва, убежден эксперт "Белорусских новостей", намерена действовать все более жестко и прагматично. Но это, по его мнению, вовсе не означает, что интеграционная карта отброшена навсегда. К лозунгу интеграции Москва вполне может вернуться — однако лишь при гарантиях, что процесс пойдет на ее условиях. Надо ли говорить, сколь опасны эти условия для судеб белорусской независимости?

При каждой очередной "газовой атаке" официальные белорусские медиа упрекают оппозицию: глупо, мол, радоваться, что батька на гвоздь наступил. Действительно, если при тающих запасах голубого топлива придется снижать температуру воды в батареях, то наверняка начнут не с правительственных апартаментов, а с квартир и мест работы рядовых белорусов. Так что всем будет худо.

Другое дело, что и хвалить отечественное руководство в газовом вопросе не за что, хотя государственные СМИ и пытались это делать: мол, надо сказать спасибо хоть за то, что столько лет удавалось-таки получать энергоресурсы по дешевке! Этот аргумент экономист Ярослав Романчук разбивает в пух и прах: **"Белорусское руководство бездарно упустило возможность за счет супердешевого газа относительно безболезненно провести рыночную перестройку экономики, технологически обновить ее, создать здоровую конкурентную среду. Деньги, вместо того чтобы пойти на модернизацию хозяйственного механизма, оседали, в частности, у тех, кто обслуживал и направлял гигантские потоки энергоносителей".** На рыночные рельсы все равно придется переходить, подчеркивает эксперт, но теперь, увы, в намного более суровых условиях, по более болезненному сценарию. К слову, посыплется и весь бюджет-2004, сбитый из расчета 30-долларовой цены на газ. Теперь же, судя по всему, доведется выкладывать за тысячу кубов не менее 50 долларов. И тогда многие отечественные предприятия сразу оказываются в нокдауне. "Правительство, заигравшись в газовые игры, фактически "подвесило" весь реальный сектор, — делает вывод независимый экономист.

В ближайшее время мы, вероятно, услышим патетичные заявления наших державных мужей насчет недружественной политики Москвы. Но Москва, положа руку на сердце, всего лишь придерживается старой присказки: дружба дружбой, а табачок врозь. Иначе говоря, пытается объяснить официальному Минску (на этот раз с помощью такого наглядного пособия, как газовый вентиль), что законы рынка — это вовсе не придумка злобных империалистов, а единственно возможная основа здоровых межгосударственных отношений. Другое дело, что нормальный рынок — как нож острый для сработанной по пропагандистским лекалам "белорусской модели развития".

### Штрих к теме

**"Ресурсов для честного сопротивления у Белоруссии нет — альтернативы российскому газу отсутствуют,** — пишет в номере от 23 января московский "КоммерсантЪ". **— В подземных газовых хранилищах "Белтрансгаза" сейчас находится до 680 млн. куб. газа, запасы мазута — 400 тыс. т. Суммарно этого объема хватит на три-четыре недели работы энергосистемы страны. Крупнейшие промышленные предприятия ("Азот", Белорусский металлургический завод, "Беларуськалий") могут пострадать от газовой блокады уже завтра, поскольку получают газ напрямую. Единственным выходом для Белоруссии является несанкционированный отбор газа — или заключение с "Газпромом" контракта на поставку газа на условиях России".**

Белорусский ответ, по сообщению "Интерфакса", не замедлил себя ждать: **"Официальный Минск в настоящее время считает пролонгированным прошлогодний договор с ОАО "Газпром" на поставку природного газа в Белоруссию, заявил осведомленный источник в органах госуправления. Он пояснил, что фактически Белоруссия будет осуществлять отбор транзитного газа и рассчитываться за него по ценам пятого ценового пояса РФ, поскольку "Газпром" осуществляет транзит газа через республику, не имея соответствующего контракта".**

Нет сомнения, что Москва сочтет такую политику еще более глубоким залезанием в свой карман. И вряд ли будет от этого в восторге. Так что если Минск на высшем уровне не примет экстренных шагов навстречу российской позиции, прежние газовые войны могут показаться лишь цветочками.

*("Белорусские новости".)*

КАНФЛІКТ

## Чаму брагінскія вадзіцелі не павезлі хлеб у чарнобыльскія вёскі?

*22 студзеня вадзіцелі аўтакалоны Брагінскай раённай спажывецкай кааперацыі правялі аднадзённы страйк. Усе яны зранку прыйшлі на свае месцы, але працу не распачыналі.*

— Сядзелі ўсе ў аўтакалоне! — паведаміў адзін са страйкоўцаў. — Не выехала ніводная аўтамашына — ні хлебныя, ні фургоны. Мы патрабавалі, каб нам аддалі заробак за лістапад і снежань, а таксама вырашылі з распарадкам працы. Мы часта працуем звыш 8 гадзін, прычым шэсць дзён на тыдзень, іншым разам і ў нядзелю. Але за пераработку нам не плацяць.

Вадзіцелі сцвярджаюць, што немагчыма так працаваць: пазразалі гадзіны, пазразалі заробак. "Рабская праца, — лічыць Пётр. — За кватэру заплаціш, за электрычнасць, тэлефон, газ — і ўсё. Дзецей няма за што апрануць, абуць. На хлеб выкройваеш".

Канфлікт вадзіцеляў і кіраўніцтва спажывецкай кааперацыі ўжо здараўся мінулым летам. Тады, як сцвярджаюць кіроўцы, старшыня раённага спажывецкага таварыства Зоя Радзюшка ўгаварыла іх не спыняць працу. Аднак і праз паўгода па сутнасці нічога не змянілася.

Страйк у аўтакалоне вымусіў адміністрацыю тэрмінова ўлагоджваць сітуацыю, бо зранку ў магазіны забруджаных радыяцыяй паселішчаў і самога райцэнтра не завозіўся ні хлеб, ні ўсе іншыя прадукты харчавання.

Пасля абеду ў аўтакалоне ўжо выдавалі заробак. Да страйкоўцаў прыязджалі не толькі старшыня спажывецкай кааперацыі Зоя Радзюшка, але і старшыня райвыканкама Аляксандр Ятчанка.

Атрыманы заробак і сход з удзелам начальства і высвятленнем прэтэнзій вадзіцеляў паспрыяў таму, што перад вечарам першыя аўтамашыны паехалі развозіць хлеб у брагінскія магазіны.

Старшыня раённай спажывецкай кааперацыі Зоя Радзюшка лічыць, што патрабаванні вадзіцеляў былі ў большасці апраўданы. Заробак за снежань сапраўды затрыманы на 5 дзён, але гэта, маўляў, не так страшна. Паводле яе слоў, лістападаўскі заробак быў выдадзены авансам у снежні. Магчымыя недаплаты звязаны з нясвоечасовай падачай табеляў уліку адпрацаванага часу. Маўляў, у аўтакалоне няма начальніка, а механік, які выконваў ягоныя абавязкі, гэтага зрабіць не здолеў.

Зоя Радзюшка пагаджаецца, што аплата працы вадзіцеляў патрабуе перагляду. Узровень яе таксама невысокі — 152 тысячы рублёў. Галоўная бяда ў тым, што ўжо тры гады раённая спажывецкая кааперацыя працуе са стратамі. Пасля Чарнобылю шмат людзей адселена. Пакупніцкая здольнасць насельніцтва ў раёне надзвычай нізкая, таму і гандаль стратны. "Найбольшую ўдзельную вагу ў рэалізацыі займаюць хлеб, віно і малако", — сцвярджае старшыня раённага спажывецкага таварыства Зоя Радзюшка.

**Анатоль ГАТОЎЧЫЦ.**

*Брагінскі раён.*

АНОНС

## «Круг»

**З наступнага тыдня "Народная воля" пачынае знаёміць чытачоў з новым раманам Алеся ПАШКЕВІЧА "Круг".**

Гэта твор пра трагічны лёс знакамітага беларускага паэта і грамадзяніна Уладзімера Дубоўкі, якога Янка Купала называў беларускім Пушкіным, які быў знаёмы з Сяргеем Ясеніным і Уладзімірам Маякоўскім, якога за патрыятычны верш бальшавіцка-сталінскія ўлады амаль трыццаць гадоў трымалі ў няволі.

Гэта твор пра беларускую нацыянальную ідэю, пра супрацьстаянне мастака і таталітарызму.

Гэта твор пра знішчэнне Беларушчыны і яе неўміручасць.



*Другі рад: справа — Уладзімер Дубоўка.*

*Аляксандр ШПІЛЕЎСКІ:*

## «...Або грошы аддадзім, або машыну, якую забралі»

*Ва ўчарашнім нумары "Народнай волі" мы расказалі пра незаконны арышт машыны грамадзяніна ФРГ беларускімі мытнікамі. І вось новая інфармацыя.*

Старшыня Дзяржаўнага мытнага камітэта Беларусі Аляксандр Шпілеўскі не сумняваецца, што грамадзяніну Германіі будзе вернуты канфіскаваны ў яго аўтамабіль БМВ. "Не хвалюйцеся, машына будзе вернута, рашэннем Вярхоўнага суда яна будзе вернута", — запэўніў на прэс-канферэнцыі кіраўнік мытнага ведамства.

Размова ідзе пра аўтамабіль коштам каля 60 тыс. еўра, які быў затрыманы супрацоўнікамі беларускай мытнай службы на мяжы з Польшчай летам 2003 года. Тады мытнікі абвінавацілі яго ўладальніка, грамадзяніна Германіі, у тым, што ён парушыў правілы часовага ўвозу аўтамабіля на тэрыторыю Беларусі. Раённы, а потым абласны суд прынялі рашэнне канфіскаваць аўтамабіль, аднак у кастрычніку Вярхоўны суд адмяніў рашэнне аб канфіскацыі.

Старшыня ДМК назваў памылковым затрыманне гэтага аўтамабіля. "Вярхоўны суд прыняў рашэнне аб тым, каб машыну аддаць. І мы аддадзім яе, канешне, аддадзім. Або грошы аддадзім, або машыну, якую забралі", — сказаў А.Шпілеўскі.

Варта адзначыць, што Вярхоўны суд вынес свой вердыкт па гэтай справе яшчэ 3 кастрычніка, але аўтамабіль дагэтуль не вернуты ўладальніку.

**Аляксей АРЭШКА.**

## Сваякі палітыкаў, якія зніклі без вестак, прапаноўваюць КДБ узбудзіць крымінальную справу ў дачыненні да шэрагу службовых асоб

Сваякі зніклых палітыкаў — Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага і тэлеаператара Дзмітрыя Завадскага, а таксама прадстаўнікі пацярпелых — Гары Паганяйла і Алег Волчак прапаноўваюць КДБ узбудзіць крымінальную справу ў дачыненні да шэрагу вышэйшых службовых асоб Беларусі. Адпаведная заява была перададзена ў КДБ 22 студзеня.

Як паведаміў БелаПАН А.Волчак, крымінальную справу прапаноўваецца ўзбудзіць па артыкуле 128 Крымінальнага кодэкса (злачынствы супраць бяспекі чалавецтва). Ён прадугледжвае крымінальную адказнасць за сістэматычнае ажыццяўленне пакарання без суда, выкраданне людзей, за якім адбываецца іх знікненне, катаванне або акты жорсткасці, што ўчыняюцца ў сувязі з палітычнымі перакананнямі.

Паводле слоў А.Волчака, звярнуцца ў КДБ сваякоў зніклых беларускіх апазіцыянераў прымусіла безвыніковасць расследаванняў, якія на працягу многіх гадоў вядзе пракуратура.

"Мы бачым, што следчыя дзеянні супраць людзей, чые прозвішчы фігурыруюць у газетных артыкулах як маючых дачыненне да гэтых знікненняў, не вядуцца", — сказаў праваабаронца.

У перададзенай у КДБ заяве абгрунтоўваецца неабходнасць узбуджэння крымінальных спраў у дачыненні да генеральнага пракурора Віктара Шэймана, былога міністра ўнутраных спраў Юрыя Сівакова, камандзіра СОБРа Дзмітрыя Паўлічэнкі, экс-начальніка Службы бяспекі прэзідэнта Мікалая Васільчанкі і цяперашняга кіраўніка МУС Уладзіміра Навумава. На час правядзення расследавання гэтых службовых асоб прапаноўваецца адхіліць ад займаемых пасад.

У адпаведнасці з заканадаўствам, рашэнне аб узбуджэнні крымінальнай справы або адмова ў гэтым павінна быць прынята на працягу 10 дзён. Адмова, паводле слоў А.Волчака, дасць сваякам права звярнуцца ў раённы суд на незаконныя дзеянні КДБ. Калі ж судовыя інстанцыі пакінуць рашэнне Камітэта дзяржбяспекі ў сіле, праваабаронцы маюць намер дамагацца разгляду гэтай крымінальнай справы ў міжнародным судзе.

**Юрый ПАЦЁМКІН, БелаПАН.**

